# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (760) БЕЛАСТОК 20 ВЕРАСНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.




Цар Белавежскай пушчы — зубр. Фота В. Казлова

НАША ІНТЭРВ'Ю

## БЕЛАСТОЦКІ МІЛЬЯРДЭР

ВЗГС — гэта вядомая ў ваяводстве і важная для яго гаспадарчага жыцця, багатая ўстанова. 19 верасня г.г. збіраецца ў Беластоку чарговы агульны з'езд прадстаўнікоў і дэлегатаў *гмінных спулдзельняў сялянскай самапомачы*. З гэтай нагоды папрасілі мы інтэрв'ю ў старшыні праўлення ВЗГС, магістра *ЯНА ВЯЖБІЦКАГА*.

*«НІВА»: Таварыш старшыня, паінфармуйце, калі ласка, нашым чытачам, чым зараз ёсць ВЗГС?*

*СТАРШЫНЯ:* Найкарацей можна сказаць, што цяпер ВЗГС прадстаўляе сабой велізарны, шырокаразгалінаваны камбінат, які займаецца гандлем, прадукцыяй тавараў, абслугоўваннем бытавых патрэб вясковага насельніцтва і шырокай культурнай дзейнасцю. Для прыкладу, праз нашы рукі праходзіць аж 42 працэнты рознічных гандлёвых абаротаў цэлага ваяводства. Уявіце сабе: амаль палову ўсяго таго, што купляюць і прадаюць жыхары Беласточчыны, афармляюць працаўнікі гандлёвай сеткі гмінных спулдзельняў сялянскай самапомачы. Ёсць іх у нас звыш 14 тысяч. Гэта таксама важная справа для гаспадарчага жыцця ваяводства. На рынку працы займаем мы

Працяг на стар. 4

ЯНКА СІПАКОЎ

## ЧЫМ ПАХНУЦЬ ЖАЛЕЗНЫЯ ЗВЯРЫ

Я, думаю, не перабольшу, калі скажу, што ў кожнага з нас на ўсялякі выпадак недзе глыбока-глыбока прыхавана яшчэ з дзяцінства патаемнае і шчымлівае жаданне — убачыць Афрыку, пра якую столькі незвычайнага чыталі мы і чулі: маўляў, гэта ж той край, дзе зіма — самы спрыяльны час на выспяванне пладоў.

Здаўна грэюся ля гэтага жадання і я. Упэўнены, што некалі ўсё ж пабываю там. Пабываю абавязкова. Толькі з гадамі мне ўсё больш і больш нецярплівіцца — пачынаю ўжо нават сам сябе прыспешваць. А часам зробіцца і боязна — а што, калі спазнюся? У наш час інтэнсіўнай, неабвешчанай вайны з прыродай усё можа быць. А што, калі раптам гэты край, які і сёння ўяўляецца мне як нечапаныя джунглі з непалоханымі звярамі, а што — калі раптам ён расчаруе мяне і я з болем зразумею, што і тут, у Афрыцы, ніяк не даехаць да сапраўдных джунгляў, а каб, скажам, толькі ўбачыць нейкую антылопу куду — трэба хадзіць некалькі дзён, а то і тыдняў? Знікаюць нечапаныя джунглі. Радзее густая тайга. Перасыхаюць блакітныя ніткі рэк, і толькі лужыны, падчас летніх і восеньскіх дажджоў, як пункціры на карце, пакуль што паказваюць, дзе нядаўна было рэчышча. Моўчкі (да стрэлу моўчкі!) бягуць штосілы па дрыготкім слязпучым промні ачмурэлыя зайцы — уцякаюць ад «газікаў», што гоняцца за імі па раллі, ад незнаёмага паху бензіну, якім пахнуць гэтыя жалезныя звяры. Колькі іх на свеце, змеханізаваных браканьераў! Яны, пэўна ж, лічаць сябе паляўнічымі, сцвярджаюць, што паляванне ўмацоўвае нервы. І, мусіць, між іх няма сапраўднага паляўнічага, які мог бы хоць зразумець думку Хэмінгуэя — маўляў, наколькі прыемней вярнуцца з палявання без льва, чым забіць яго з машыны, з-пад фар.

І таму ўжо як нешта вельмі невера-годнае, як цікавая прыдумка нашых беларускіх казак успамінаецца гісторыя зубрыхі, якую я пачуў у Белавежы.

Яшчэ зусім нядаўна жыла-была ў нашай пушчы зубрыха. Як ва ўсіх добрых людзей, было ў яе імя. Хто ведае, як звалі яе зубры (зубраняты, дык тыя клікалі ці мама, ці цёця), а ў людзей была яна Пляткарка. Хто яго ведае, чаму так назвалі яе, але калі ўжо назвалі, то прычына, мусіць, была. І вось састарылася яна. Спачатку клікалі яе цёткаю, а потым і бабкай. Пляткаркаю пачалі зваць. І трэба ж ёй да ўсяго яшчэ аслепнуць. Бывала, як пакліча яе егер да кармушкі, каб паседала: «Пляткарка! Пляткарка! Дзе ты, хадзі сюды!» — яна наўздагад ідзе на яго кліч, на дрэвы натыкаецца, аб пні спатыкаецца. Ведаеце, аж глядзець шкада. Але ні ў каго рука не паднялася, каб, як раілі некаторыя, выбракаваць яе па старасці і застрэліць.

Наадварот, усе Пляткарку дужа любілі і даглядалі, як дзіця ўсё роўна: ёй і корм лепшы, і догляд таксама. І зубраняты з ёю сябравалі, як і раней. Табуном за ёю хадзілі. Мусіць, яна добра ўмела расказваць зубрыныя казкі, якія так любяць слухаць усе малыя... А яна збярэ ў гурт зубранят, тыя палягуць ля яе, і Пляткарка расказвае ім пра добрых зубрыных асілкаў, ды можа і пра тое, як раптам лёд на іх

Працяг на стар. 4

НОВЫЯ ВЕРШЫ

## РАДКІ АБ КАХАННІ

* * *

Выбліснула сонца  
У гаманкіх чаротах,  
Над табой, як німб,  
Яго святло.  
Пакланяўся сонцу  
Мой далёкі продак,  
Бо цябе ў той час  
На свеце не было.

Мне пашанцавала,  
Што я твой сучаснік,  
Што ты ёсць на свеце  
І ў маім жыцці.  
Нават калі сонца  
Над зямлёй пагасне,  
Я не пашкадую —  
Толькі ты свяці!

*

Прыходзіць сон.  
Ты закрываеш вочы.  
На небе разгараюцца ярчэй  
Мільёны зорак,  
Дыяментаў ночы,  
Ды ім  
Не замяніць тваіх вачэй.

Ты спіш, дзяўчо,  
Мая дзева Марыя,  
Мой лёс,  
Мой ад няшчасцяў верны шчыт.  
А раніцою  
Вочы ты адкрыеш —  
І цэлы свет  
Асвеціць іх блакіт.

МІКОЛА АЛТУХОЎ

НА РОДНЫМ ЗАГОНЕ



Капанне бульбы. Фота Цаф — Сянько

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### «ЛУНА — 16»

12 верасня г.г. у Савецкім Саюзе была запушчана аўтаматычная станцыя «Луна — 16».

Мэта палёта станцыі — правядзенне навуковых даследаванняў Месяца і прасторы, акружаючай планету.

### ПЕРАГАВОРЫ ПНР — ФРГ

Чарговыя перагаворы між урадавымі дэлегацыямі Польшчы і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі адбудуцца ў Боне ў пачатку кастрычніка г.г. Перагаворы будуць весці віцэ-міністры замежных спраў. Як вядома, адтэрмінаванне гэтай сустрэчы, першапачаткова прадбачанай на верасень г.г., наступіла па просьбе ўрада ФРГ.

Абодва ўрады ўзгоднілі таксама, што ў першыя дні лістапада г.г. прыбудзе ў Варшаву міністр замежных спраў ФРГ Вальтэр Шэль. Мэтай гэтага візіту будзе сфіналізаванне перагавораў ПНР—ФРГ з міністрам замежных спраў Польшчы Стэфанам Яндрыхоўскім.

Прадстаўнік заходнегерманскага парламента ў Міністэрстве замежных спраў ФРГ К. Мэрш заявіў, што мае абгрунтаваную надзею, што дагавор з Польшчаю будзе падпісаны яшчэ позняю восенню г.г. «З нашага пункту гледжання, — сказаў ён, — дагавор з Польшчаю з'яўляецца так сама важны для еўрапейскай палітыкі, як дагавор, які мы падпісалі з Савецкім Саюзам».

### ЗАКОНЫ І РЭПРЭСІІ

Прафесар амерыканскай гісторыі ў Ахмерцкім каледжы Г. Комаджэр апублікаваў артыкул на тэму новага перыяду рэпрэсіі ў ЗША.

У ЗША, адзначае Г. Комаджэр, скрозь і ўсюды парушаюць асноўныя свабоды амерыканскіх грамадзян і нармальную працэдуру судаводства. Прычым сёння, заўважае ён, абуральныя замахі на свабоду ажыццяўляюцца ў імя... захавання канстытуцыі ЗША, а парушэнні працэдуры судаводства — у імя падтрымання законнасці і парадку. Кіруючыя колы звяртаюцца да ўціску і запалохвання ў імкненні заткнуць рот крытыцы, накіраванай супраць вайны ў Паўднёва-Усходняй Азіі і ўнутранай палітыкі рэспубліканскага ўрада, адзначае аўтар артыкула. Г. Комаджэр звяртае таксама ўвагу на тое, што ў галіне вырашэння сацыяльных праблем Амерыкі кіруючыя колы ЗША ажыццяўляюць палітыку дзвюх справядлівасцей»: адна «справядлівасць» існуе для чорных, піша ён, другая — для белых, адна — для багатых, другая — для бедных.

Урад ЗША і яго органы, піша аўтар, пазбаўляюць грамадзян іх законнага права на інфармацыю. Інфармацыйнае агенцтва ЗША (ЮСІА) забараняе кнігі, у якіх асуджаецца в'етнамская авантура. Мільёны долараў выдаткоўвае федэральны ўрад на тое, каб паднесці амерыканскім грамадзянам сваю версію падзей. Толькі Пентагон, падкрэслівае Г. Комаджэр, траціць штогод 47 мільёнаў долараў на апрацоўку розуму моладзі з адзінай мэтай — дабіцца падтрымкі агрэсіі ЗША ў В'етнаме. (ак)



## БССР

### ДРУЖБЫ

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Сяргей Прытыцкі прыняў дэлегацыю Таварыства в'етнама-савецкай дружбы на чале з членам ЦК Партыі працоўных В'етнама, міністрам пры канцылярыі прэм'ер-міністра Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама Чан Хыу Зык.

У сяброўскай гутарцы прынялі ўдзел старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-в'етнамскай дружбы, міністр аўтамабільнага транспарту Беларускай ССР А. Андрэеў, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Г. Чарнушчанка.

### ВЯРХОЎНАГА

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. На ім быў заслуханы даклад намесніка старшыні выканаўчага камітэта Вілейскага раённага Савета дэпутатаў працоўных А. Сцяшко аб рабоце выканаўчых камітэтаў Савета дэпутатаў працоўных па правядзенню агульных сходаў грамадзян і аказанню дапамогі сельскім і вулічным камітэтам у іх дзейнасці.

На сходах абмяркоўваюцца пытанні культурна-бытавога будаўніцтва, добраўпарадкавання населеных пунктаў, работы школ, культурна-асветных і медыцынскіх устаноў, прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, выхавання дзяцей і падлеткаў; заслухоўваюцца справаздачы аб рабоце выканаўчых камітэтаў Саветаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, звязаных з абслугоўваннем насельніцтва; праводзіцца азнаямленне грамадзян з важнейшымі пастановамі партыйных і дзяржаўных органаў.

### СПАРТАКІЯДЫ

Пад старшынствам намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Ю. Колакалава адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню V летняй Спартакіяды Беларускай ССР.

### ГРОДЗЕНСКАГА

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. Клімаў уручыў Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР лепшым будаўнікам, мантажнікам і эксплуатацыйнікам, якія вызначыліся на збудаванні гіганта вялікай хіміі — вытворчасці капралактаму гродзенскага азотнатукавага завода.

### КОНКУРС

Адбыўся Рэспубліканскі конкурс маладых токараў і фрэзероўшчыкаў, прысвечаны 50-годдзю камсамола Беларусі. Сярод токараў першае месца здабыў Леанід Ахрамовіч, сярод фрэзероўшчыкаў — Генадзь Тарасевіч.

### ДЭКАДА ПОЛЬСКАЙ КНІЖКІ

Дэкада польскай кніжкі, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-годдзю сумеснай перамогі савецкага і польскага народаў над нямецкім фашызмам, урачыста адкрылася ў мінскім магазіне «Дружба». (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ШТО Ў ГАНДЛІ?

Міністр унутранага гандлю Э. Шнайдар, выступаючы з нагоды Краёвай Познанскай ярмаркі, выказаўся на тэму забеспячэння насельніцтва патрэбнымі таварамі.

Э. Шнайдар сказаў, што забеспячэнне насельніцтва бульбай, гароднінай і фруктамі будзе задавальняючае. У параўнанні да мінулага года павінна быць больш гародніны, фруктаў у зімовым перыядзе.

Што датычыць тканіны, дык колькасць дастаўак забяспечыць поўнасцю запатрабаванне. Крыху горш будзе выглядаць справа з трыкатажнымі вырабамі. Праўда, будзе іх больш, чым у мінулых гадах, аднак у некаторых асартыментах будзем адчуваць недахопы. Прадбачваюцца таксама цяжкасці ў галіне забеспячэння некаторымі галантэрыйнымі вырабамі. Улічваючы запасы абутку, міністр падкрэсліў, што гандаль павінен поўнасцю пакрыць запатрабаванне. Асноўнай справаю ў актуальных умовах гандлю з'яўляецца не толькі запэўненне адпаведнай колькасці дастаўак тавараў, але і дапасаванне іх асартыменту да патрэб і выманняў купляючых. Таму ў працах міністэрства на першы план высоўваецца справа правідловага супрацоўніцтва гандлю і прамысловасці ў галіне асартыментальнай структуры планаваных паставак тавараў і тэрміновай іх рэалізацыі. — Калі прамысловасць прапануе ўзоры тавараў, якія не адпавядаюць патрабаванням, дык гандлёвыя прадпрыемствы абавязаны адмовіцца ад закупу такіх тавараў і замяніць іх іншымі, якія адпавядаюць патрабаванням кліента, — сказаў міністр Э. Шнайдар.

Трэба адзначыць, што на XXVI-ай Краёвай Познанскай ярмарцы «Восень —70» прапануецца нашаму гандлю 85 тыс. узораў розных тавараў на суму 42 мільярдаў зл. Напрыклад, прамысловасць, якая выраблае адзенне, прапануе на ярмарцы каля 1700 мадэляў адзення, у тым ліку 1245 новых.

### КАНГРЭС

У Варшаве адбываўся кангрэс права працы і грамадскага забеспячэння. У кангрэсе прыняло ўдзел каля 400 спецыялістаў права працы, членаў Міжнароднага аб'яднання права працы і грамадскага забеспячэння, якія прадстаўлялі 40 краін свету. Каля 100 асоб з гэтага ліку — гэта прадстаўнікі сацыялістычных краін.

Трэба падкрэсліць, што сталіца сацыялістычнай краіны ўпершыню з'яўляецца месцам працы такіх кангрэсаў.

### ЭЛЕКТРАВОЗЫ

Напярэдадні «Дня чыгуначніка» больш чым 7,5-тысячны калектыў фабрыкі «Пафаваг» заявіў, што ў цякучым годзе аддаў у карыстанне польскім дзяржаўным жалезным дарогам (ПКП) 56 электравозаў тыпу 3э і 4э. Да канца г.г. фабрыка дастравіць яшчэ 20 электравозаў, у тым ліку адзін звышпланавы. (ак)



## ВАЯВОДСТВА

### У БЕЛАСТОЦКІХ МЯСНІКОЎ

На ваяводскім прадпрыемстве мясной прамысловасці адбылося выязное пасяджэнне сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП. Тэмай пасяджэння было выкананне пастановы V пленума ЦК ПАРП і стан падрыхтоўкі да ўвядзення на прадпрыемстве новай сістэмы матэрыяльнага зацікаўлення. Вёў пасяджэнне І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП А. Лашэвіч.

Беластоцкае ваяводскае прадпрыемства мясной прамысловасці складаецца з некалькіх мясных фабрык, некалькіх аддзелаў скупу жывёлы на ўбой і прадпрыемства мяснога транспарту. Камісія з прадпрыемства падала на пасяджэнні Сакратарыята шэраг удасканаленняў, якія прынясуць прадпрыемству значныя эканамічныя эфекты. Толькі на беластоцкім мясакамбінаце прадугледжана ўвесці ашчаднасць на 50 млн. злотых. Апрача таго, прадпрыемства павялічыць магчымасць убою жывёлы на 11 тыс. тон, што зменшыць вываз жывёлы на ўбой у іншыя ваяводствы і дасць дадатковую ашчаднасць.

Беластоцкае прадпрыемства мясной прамысловасці з'яўляецца перадавым у краіне і гэтае ганаровае месца хоча ўтрымаць і ў наступнай пяцігодцы.

У падсумаванні дыскусіі на пасяджэнні І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч высока ацаніў працу камісіі прадпрыемства і падкрэсліў неабходнасць далейшага павышэння эфектыўнасці працы ўсяго калектыву прадпрыемства.

### ПЛЕНУМ КАМІТЭТА ПА СПРАВАХ ГАСПАДАРКІ

У мінулым тыдні адбыўся пленум камітэта па справах сельскай гаспадаркі. Абмяркоўвалася справа рацыянальнага выкарыстоўвання зялёных угоддзяў. На пленуме былі адзначаны немалыя дасягненні нашага ваяводства ў галіне меліярацыі і загаспадаравання лугоў і выганаў. Ураджай сена ўзрос з 54,7 цэнтнераў ў 1966 годзе да 68 цэнтнераў у гэтым годзе, а ў бліжэйшыя гады ўраджай сена дасягне 80 цэнтнераў з гектара. Аднак найбольш увагі на пленуме было прысвечана недахопам і памылкам у выкарыстоўванні зялёных угоддзяў.

### ДАЖЫНКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У мінулую нядзелю сяляне Беластоцкага ваяводства ўрачыста святкавалі заканчэнне збору ўраджаю — дажынкі. У многіх паветах вясёлыя расквечаныя карагоды былі спалучаны з выстаўкамі дасягненняў у раслінагадоўлі, жывёлагадоўлі, механізацыі, а таксама з кірмашамі сельскагаспадарчых і грамадска-палітычных кніжак.

### ДЗЕНЬ ЧЫГУНАЧНІКА

Вельмі ўрачыста адзначылі сваё свята чыгуначнікі. У Лапах працаўнікі прадпрыемства рамонту адзінак чыгуначнага транспарту (ЗНТК) адзначалі ў гэты дзень 100-годдзе свайго прадпрыемства. Цэнтральная ваяводская ўрачыстасць адбылася напярэдадні Дня чыгуначніка ў тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Многія чыгуначнікі атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды, адзнакі «Заслужаны для Беласточчыны» і залатыя адзнакі «Перадавы чыгуначнік». (яч)




**Niedziela 20. IX.**

8.00 Program dnia; 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Konserwacja pasz na okres zimy"; 8.40 „Przypominamy, radzimy"; 8.50 Dla młodych widzów: „Złota piłka": „Czterej pancerni i pies"; 10.30 Studio Popularnych Piosenek — program TV NRD; 11.30 PKF; 11.45 „Złoty pierścień" (Moskwa); 12.15 Dziennik; 12.30 ,Wypoczynek ludzi węgla"; 13.50 „Szpieg wyszedł z morza — film fab. radz.; 15.10 Program wiejski „Otwarte drzwi"; 15.40 F. Couperin — „Domina czyli Igraszki dworskie"; 16.15 „Tele-Echo"; 17.05 „Bonanza" — film; 17.30 „Portrety" — „Testament" (o życiu i twórczości T. Borowskiego); 18.00 „Piórkiem i węglem"; 18.25 „Znane melodie z Mińska" — pr. TV Białoruskiej; 18.55 „Varsaviana" „ felieton Sz. Kobylińskiego; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Hud, syn farmera" — film fab. USA; 21.30 PKF; 21.50 Magazyn sportowy; 22.20 Miedzynarodowy Turniej Tańca Towarzyskiego — finał.

**Poniedziałek 21. IX.**

14.25 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.40 „Echo stadionu"; 18.00 „Mężczyźni o zasłoniętych twarzach" — film NRD; 18.25 „Kino Filmów Animowanych"; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: J. Janicki i A. Mularczyk — „Virtuti"; 21.30 „Profile kultury" — rep. film. pt. „Romeo i Julia wędrują po Mazowszu"; 22.00 „Wymiar jazzu" — balet do muzyki A. Kurylewicza; 22.25 Dziennik.

**Wtorek 22. IX.**

10.30 „Hipnotyzer" — film fab. ang.; 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — B. Brecht — „Matka Courage i jej dzieci"; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Parowanie i kiszenie ziemniaków"; 13.15 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „Zawsze we wrześniu" — film pol.; 19.00 „Na spotkanie z nocą polarną" — rep. film. Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Hipnotyzer" — film fab. ang.; 21.25 Panorama Literacka; 21.55 Program filmowy; 22.20 Dziennik.

**Środa 23. IX.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Czym są metale"; 9.30 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „O świetle"; 10.25 „Kolumbowie" — film TVP; 11.25 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód"; 14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: Film; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.50 „Czy partner kolei?"; 18.20 „Sylwetki X Muzy" — Wanda Łuczycka; 18.45 „Obraz czyli 1000 słów" — program pop. naukowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Kolumbowie" — film TP; 21.05 „Światowid"; 21.35 PKF; 21.45 „Beethoven na Śląsku"; 22.15 Dziennik.

**Czwartek 24. IX.**

8.15 „Matematyka w szkole": „Wiadomości wstepne z geometrii przestrzeni trójwymiarowej" — wariant I; 8.45 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Dante — „Petrarka"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: 12.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.55 TV Kurier Lubelski; 18.10 „Daleko do szkoły"; 18.40 „Przegląd muzyczny"; 19.10 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dzienik; 20.00 „Domek na wsi" — film TV ang.; 21.00 „Rozmowy o książkach"; 21.15 Studio Współczesne: „Moja dziewczyna" wg powieści Cz. Ajmatowa; 22.00 Warszawska Jesień. Migawki z Festiwalu — najciekawsze zespoły i soliści; 22.45 Dziennik.

**Piątek 25. IX.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Nowoczesny zakład pracy"; 10.30 „Tyle wierności na nic" — film. fab. węg.; 11.45 Przerwa; 14.25 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Aula"; 17.30 TV Kurier Mazowiecki; 17.45 „Nie tylko dla pań"; 18.05 „Za kierownicą"; 18.35 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 18.55 „Pocztówki z Bułgarii" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Melodie cygańskie" — film czechosł.; 20.30 „Kraj"; 21.10 Teatr TV: A. Musset — „Kaprysy Marianny"; 22.20 Dziennik.

**Sobota 26. IX.**

9.35 „Twój współczesny" — film fab. radz.; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Ukształtowanie powierzchni Polski"; 12.25 Przerwa; 13.25 Program dnia; 13.30 Program tygodnia; 13.50 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru okopowych"; 14.30 Transmisja z trójmeczu lekkoatletycznego NRD—Polska—ZSRR (Erfurt); 17.00 Dziennik; 17.15 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.15 „Addis Abeba" — film dok. pol. („Etiopskie impresje"); 18.30 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Wiedeńskim fiakrem" — program rozrywkowy („Raz, dwa, trzy..."); 21.10 Dziennik;; 21.30 „Twój współczesny" — film fab. radz.




**Piątek, 18 września**

8.05 Nowiny; 8.15 Dla dzieci; 8.45 TV teatr miniatur; 9.35 „Czerwone liście". Film fab.; 11.05 Nowiny; 15.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.10 Dla uczniów; 16.05 Almanach TV; 16.30 Film TV; 17.00 Reportaż filmowy; 17.10 Panorama nowin; 17.30 Bohaterowie literatury na scenie i ekranie; 18.30 Czas; 19.00 Dla wsi; 19.30 „Miczman Panin".

**Sobota, 19 września**

8.00 Program dnia; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Ekran zbiera przyjaciół ZSRR — Polska; 9.30 Nowiny; 9.45 Szkatułka muzyczna; 10.00 Przegląd międzynarodowy; 10.15 Film animowany dla dzieci; 11.15 Reportaż TV; 11.45 „Trembita". Film fab.; 13.15 Horyzonty techniki; 13.45 Film dokument.; 14.15 Kronika półwiecza. Rok 1952; 15.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Tbilisi); 16.45 Białoruscy drwale; 17.05 Śpiewa Olga Waraniec; 17.35 Ekran i czas; 18.35 Czas; 19.00 Puchar europejskich mistrzów w hokeju. Półfinał. „Spartak" (Moskwa) — „Dukla" (Czechosłowacja); 19.45 W eterze „Młodość".

**Niedziela, 20 września**

8.00 Kalendarz TV; 8.30 Koncert życzeń; 9.15 Dla uczniów; 10.15 Koncert zespołów dziecięcych; 10.35 Białe i czarne; 11.00 Film dokument.; 11.15 Twój dom; 11.45 Pomnik architektury rosyjskiej. Zagorsk; 12.15 W świecie zwierząt; 13.30 Film animowany; 14.00 Dla żołnierzy; 14.30 Kiosk muzyczny; 15.00 Klub filmowy; 16.00 Nowiny; 16.05 Dla wsi; 16.30 Koncert; 17.00 „Na każdym kilometrze". Seryjny film TV. 9 seria; 18.00 Czas; 18.30 Film dokument; 18.45 Film fab.

 

# ДАЖЫНКІ Ў КРЫНКАХ



Ганаровая трыбуна дажынак.

Апошняя нядзеля жніўня была цёплай і сонечнай. Гэтую нядзелю выбралі сабе на дажынкі гаспадары крынкаўскага сельскагаспадарчага раёна.

На скверы, што ў самым сэрцы мястэчка Крынкі, шматлікая колькасць гаспадароў з навакольных вёсак. Прыехалі, каб адсвяткаваць сваё свята — свята плёнаў. Цікавыя вынікаў сёлетніх плёнаў былі таксама прысутныя на ўрачыстасці прадстаўнікі рабочага класа, крынкаўскія гарбары.



*Гаспадар (з хлебам), старасціна і староста дажынак набліжаюцца да трыбуны.*

Пакуль пачнецца афіцыяльная частка, прысутныя аглядаюць вынікі працы перадавых гаспадароў. Дзеля гэтага арганізатары дажынак зрабілі выстаўку плёнаў гаспадароў крынкаўскага сельгасраёна. Прабіваюся праз натоўп наведвальнікаў выстаўкі. Запісваю першыя-лепшыя прозвішчы гаспадароў, плёны якіх на выстаўцы. Яўген Жамойда з Паўднёвага Вострава, які сабраў 20 цэнтнераў азімай пшаніцы з 1 гектара, а Васіль Бернацкі 21 цэнтнераў. Добрым ураджаем жыта могуць пахваліцца Пятро Яновіч, які, прымяніўшы 180 кг «NPK» на гектар, атрымаў 23 цэнтнеры з гектара, або Яўген Чабан, які атрымаў падобны ўраджай, прымяняючы 240 кг «NPK» на гектар зямлі.



*Дэлегацыі ГРН складаюць дажынковыя вянкі.*

Пагода ў гэтым годзе не была літасцівай для гаспадароў, а нягледзячы на гэта ўраджай у Сакольскім павеце мала панізіўся. Паводле ацэнкі дзяржаўнай інспекцыі плёнаў, выдайнасць з 1 гектара выносіла: 15,5 цэнтнера жыта, 19 цэнтнераў пшаніцы, 19,5 цэнтнера ячменю, 17,5 цэнтнера аўса.



*Ля выстаўкі плёнаў.*

Але пачынаецца афіцыяльная частка дажынкавых урачыстасцей. На ганаровай трыбуне госці з павета: сакратар павятовага камітэта ПАРП Генрык Кравец, намеснік старшыні прэзідыума ПРН Ян Зембовіч, сакратар павятовага камітэта ЗСЛь Аляксандр Рафаловіч і іншыя прадстаўнікі сельскагаспадарчых устаноў.

Гаспадаром сёлеташніх дажынак быў Ян Зембовіч, а старасцінаю і старастаю адпаведна І. Гайдукевіч і Ю. Юрчэня. Аркестр адыграў гімн Польшчы, і гаспадар дажынак ідзе перад трыбунай, каб пераняць бохан хлеба, сімвал плёнаў зямлі ад старасціны і старасты. Хлеб пакладзены перад трыбунай, а побач яго дэлегацыі гаспадароў з паасобных ГРН складаюць дажынковыя вянкі.

З прамоваю выступае гаспадар дажынак Ян Зембовіч. Падводзіць ён вынікі працы ў сельскай гаспадарцы Сакольшчыны. «Дзякуючы мінеральным угнаенням і рацыянальнай агратэхніцы, — гаворыць Я. Зембовіч, — сельскагаспадарчыя гурткі ў Паўночным і Паўднёвым Астравах, у Піражках і МБМ у Крынках мелі ў гэтым годзе ў сярэднім на 2 цэнтнеры вышэйшы ўраджай ад сярэдняй павятовай. Гэта было прычынай, што сёлеташнія дажынкі адбываюцца іменна ў гэтым раёне».

Пасля афіцыяльнай часткі выступіў мастацкі калектыў з Гарадка, потым адбыўся фінал алімпіяды ведаў аб сельскай гаспадарцы прадстаўнікоў калектываў «Пшыспособене рольнічэ».

*А. Карпюк*
*фота аўтара*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

Сярод амаль васьмі мільёнаў вучняў, якія 2-га верасня пачалі вучобу ў пачатковых і сярэдніх школах нашай краіны, знаходзіцца звыш 250 тысяч дзяцей і моладзі з Беластоцкага ваяводства.

Што іх чакае ў гэтым школьным годзе? У якіх умовах будуць яны прысвойваць веды?

Дык спалучыліся мы з некаторымі мясцовасцямі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны і пыталі: што чуваць у школах?

### У ЯЛОЎЦЫ

На тэрыторыі ГРН Ялоўка знаходзяцца тры пачатковыя школы. Найпрыгажэйшая сярод іх, найлепш абсталявана школа ў самой Ялоўцы. Вёска Залешаны таксама мае вялікую мураваную школу, аднак яна патрабуе неадкладнага рамонту. Асабліва трэба было б паправіць электрычнае абсталяванне, якое ў цяперашнім стане стварае сур'ёзную пагрозу для вучняў. Трэцяя школа знаходзіцца ў вёсцы Навасады. Яна мае ўсяго чатыры класы і памяшчаецца ў драўляным сялянскім будынку.

### У МІХАЛОВЕ

Тут ужо намнога лепш. Так прынамсі сцвярджае старшыня прэзідыума ГРН у Міхалове Балеслаў Баршчэўскі. Чатыры пачатковыя школы — у Пяньках, Геранімаве, Саколлі і Міхалове — перад пачаткам новага школьнага года былі ачышчаны і адмаляваны.

### У ОРЛІ

— Што чуваць у школах? — паўтарае нашае пытанне сакратар арлянскай грамады Альяш Сакалоўскі. — Нядрэнна чуваць. Ёсць тут пяць пачатковых школ. У Шчытах гаспадары грамадскім чынам пабудавалі будынак для гаспадарчых патрэб школы. У Орлі таксама праводзілі мы даволі грунтоўны рамонт тутэйшай школы. Толькі ў вёсцы Рэдуты крыху горш. Там дзеці вучацца аж у трох сялянскіх будынках. У іншых школах таксама цеснавата. Пацяшаемся аднак тым, што ў суседніх нашых грамадах бывае яшчэ горш.

### У РЫБАЛАХ

У межах рыбалаўскай грамады знаходзіцца аж 6 пачатковых школ. Аб умовах, у якіх яны працуюць, гутарым з сакратаром грамадскай рады Віктарам Тамашуком, які гаворыць, што ў вёсках Рэпнікі і Канюкі школы маюць усяго ледзь па чатыры класы. Памяшчаюцца яны ў сялянскіх хатах. Дзяцей аднак там мала і месца хапае. У Рыбалах, Паўлах і Войшках прышлося наняць у гаспадароў дадатковыя залы.

У Рыбалах ужо чацвёрты год будуюць грамадскім чынам другі школьны будынак. Выканаўцам будаўляных прац з'яўляецца «Велёбранжовая спулдзельня» з Бельска. Тэрмін перадачы гэтага будынку ў карыстанне быў ўстаноўлены на 22 ліпеня г.г. і астаўся на паперы. Дык калі дзеці змогуць пачаць вучобу ў гэтым будынку?

— Можа ў снежні, — гаворыць сакратар, а ў яго голасе няма ўпэўненасці. — Гнаць бы прэч такіх будаўнікоў.

Пра пабудову дадатковага школьнага будынку грамадскімі сіламі думаюць таксама ў Паўлах. Пры выдатнай грашовай дапамозе грамадскай рады паўлаўцы купілі ў Беластоку мураваны будынак, які прызначаўся пад развалку і грамадскім чынам разабралі яго.

### У СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ

У гэтай грамадзе школы знаходзяцца ў вёсках: Ляўкова, Ільяшукі і Ахрымы. У Ахрымах толькі чатыры класы. У гэтым годзе асветныя ўлады ў Гайнаўцы для школы ў Ахрымах купілі прасторную сялянскую хату. Неабходна было тады правесці ў гэтай хаце капітальны рамонт, каб прыстасаваць яе да патрэб школы. Вёска Цялушкі мае новую школу і тут ніякіх турбот з месцам для вучняў няма. У Ляўкове аднак прышлося наняць адзін пакойчык у сялянскай хаце. На шчасце, усе падрыхтоўчыя працы былі закончаны да І-га верасня і дзеці пачалі вучобу ў аднаўленых залах.

### У КЛЯШЧЭЛЯХ

Голас старшыні прэзідыума ГРН у Кляшчэлях Яўгенія Вяхімюка гучыць бадзёра.

— У нас добра чуваць, — сцвярджае ён. — Школы на тэрыторыі нашай грамады маюць, бадай што, найлепшыя ўмовы ў павеце. І пастаянна яны ў нас

(Працяг на стар. 5)

# Ніва на САКОЛЬШЧЫНЕ

У паветах Сакольскім і Дуброўскім знаходзіцца ўсяго каля двух працэнтаў усіх падпісчыкаў «Нівы», якая моцна папулярная перш за ўсё на Гайнаўшчыне ды Бельшчыне. На поўдзень ад рэчкі Нарвы «Ніва» амаль у кожнай вясковай хаце, амаль у кожнай сям'і. Адна гайнаўская вёска, — напрыклад, Кленікі — выпісвае больш «Нівы», чым уся Сакольшчына. Гэта вынік вельмі слаба пашыранай нацыянальнай пісьменнасці ў сакольскіх ваколіцах, ды культуры наогул.

На Сакольшчыне найбольш «Нівы» выпісваюць на поштах у Крушынянах, Бабіках і Шудзялаве. Невялікія, але ўжо шэраг год пастаянныя лікі падпісчыкаў «Нівы» ў Крынках (заўсёды каля 10), Гуранах — каля 20 і ў паштовай акрузе Новы Двор, дзе пераважна бывае 12 падпісчыкаў нашага тыднёвіка. Вельмі мала — у Кузніцы, Сідры, Саколцы, Залессі, Сакалдзе, Загор'і і Ружанастоку, у якіх найчасцей па адным падпісчыку. З таго відаць, што ў Дуброўскім павеце трынаццаць падпісчыкаў «Нівы», г.зн. Новы Двор і Ружанасток.

Лічба каля двухсот падпісчыкаў «Нівы» на Сакольшчыне ўтрымоўваецца ўжо больш дзесяці год. Сведчыць гэта аб тым, што сфармавалася тут група пастаянных чытачоў, якія выпісваюць наш тыднёвік зімою і летам. Няма істотных ваганняў у лічбах паміж зімовым і летнім часам.

Адначасова сведчыць гэта і аб тым, што мясцовы беларускі актыў літаральна нічога не зрабіў для пашырэння беларускага тыднёвіка. Для прыкладаў, у сядзібах павятовых аддзелаў — у Саколцы і Дуброве — няма ніводнага падпісчыка «Нівы», апрача саміх аддзелаў, дзе падпіска адбываецца за дзяржаўныя грошы БГКТ. Не ўяўляю сабе беларускіх актывістаў (у Саколцы і Дуброве), якія ўжо дзесяць і больш год не трымалі ў руках «Нівы», за выключэннем тых рэдкіх аказій, калі што-небудзь напісана аб іх у «Ніве» — і калі ім хто скажа, што напісана аб іх у «Ніве»... Гэта надта кепска сведчыць аб інтэлектуальных магчымасцях дзейнасці мясцовага павятовага актыву на карысць развіцця культурных амбіцый у беларускіх асяроддзях.

Тут не хачу быць галаслоўным. Ёсць вёскі, у якіх арганізаваны беларускія гурткі, нават гурткі БГКТ, і нават выбіраліся ад іх члены Галоўнага праўлення БГКТ. І разам з тым у гэтых жа вёсках няма і, мабыць, ніколі не было ніводнага падпісчыка «Нівы». Такімі вёскамі ёсць — Лазні, Боркі, Вярхлессе, Сырожкава, Візгі і інш.

Падпіска на «Ніву», яе лічба, з'яўляецца тым барометрам, які паказвае на тое, ці дзейнасць актыву дае вынікі, ці толькі плыве, бы тая вада з гускі. Барометр у выглядзе лічбы падпісчыкаў «Нівы», пастаянных і ўважлівых, паказвае таксама на тое, наколькі дзейнасць у данай ваколіцы была сур'ёзнай і добра абгрунтаванай, а наколькі — павярхоўнай і аказійнай. Бо найвышэйшым вынікам дзейнасці БГКТ з'яўляецца ўкараненне замілаванасці да роднага слова, да чытання. Старая гэта праўда, што — найвышэйшай формай культурнай дзейнасці лічыцца праца з кніжкай, з друкам. Гэта праца вызваляе думкі і магчымасці чалавека.

(С.Я.)

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ ВЯРХЛЕССІ

Вёска Вярхлессе, адна з найбольшых у Сакольскім павеце, не славіцца нічым асаблівым. Хіба толькі тым, што тут ужо пяты ці шосты год брукуюць чынам вясковую вуліцу — і невядома, колькі яшчэ гадоў працягнецца гэтае брукаванне. Гаспадар адзін, другі, трэці кажуць: ці мне патрэбна? Каму патрэбна, няхай той брукуе. Ніхто не лічыць таго, што на ямістай вуліцы хутчэй псуюцца вазы, мацней знясільваюцца коні, чуваць больш лаянкі і нездаровай нервовасці.

Каменні, прызначаныя для брукавання, пад платамі. Зрэшты, у Вярхлессі да ўсяго так адносяцца. Бібліятэкарка кажа мужчыне: пазычце сабе кніжку, пачытайце. Мужчына на тое: на хваробу мне кніжка, ад яе грошай не мецьму. Пісьманосец кажа: выпішце, пане гаспадар, газету. Гаспадар адказвае: нашто мне газета, хлеб дасць яна мне, ці што...

Вярхлессе, вёска загубленая сярод лясоў, магла б задбаць аб лепшым лёсе, аб лепшым жыцці. Мясцовыя актывісты крыху робяць, часамі нават і з вельмі добрымі вынікамі, але датычыць гэта гаспадарчай дзейнасці. Датычыць гэта чыстага рахунку карысці-некарысці. Няма імкнення да дбайнасці аб чалавечай культуры, аб яго больш разумных поглядах на жыццё. Культ грошай і прыбытку пануе над вярхлескімі людзьмі, дзе амаль ніхто не выпісвае хоць якога-небудзь культурнага тыднёвіка.

Некалі была тут група досыць актыўнай моладзі, якая спрабавала наладзіць культурную дзейнасць. Але цяпер аб гэтай моладзі нічога не чуваць: або пагадзілася з лёсам, або выехала ў свет шырокі.

(ся)



 



ВЫСТАЎКА «СУСТРЭЧА З РАЗЬБОЙ 1970» У ГАЙНАЎЦЫ

У клубнай зале і на панадворку Дома настаўніка ў Гайнаўцы адкрыта выстаўка мастацкіх работ удзельнікаў гайнаўскага пленеру.

У VI пленеры разьбы па дрэву прымалі ўдзел мастакі з Польшчы і з замежных краін.

Найбольшым зацікаўленнем наведвальнікаў выстаўкі карыстаюцца разьбы: кампазіцыя зубра Станіславы Міхальскай з Познаня, «Гайнавіта» Ірэны Лёрах з Гданьска, «Экзекуцыя 1942» Фядоры Стасяк з Кракава, «Ікар» і «Мацярынства» Юрыя Грыгарчука, а таксама «Конь» Войцеха Залэнскага з Беластока. Варта дадаць, што частку сваіх мастацкіх прац разбяры пакінуць Беласточчыне.

*Я. Цялушэцкі*

На здымку: на Гайнаўскім пленеры.

*Фота Цаф — Сянько*

# НЕАБХОДНЫ НАСТАЎНІКУ-ПАТРЭБНЫ ВУЧНЮ

Дзякуючы ветлівасці майго калегі атрымаў я нядаўна «Спевы», падручнік для 4 класа пачатковых школ у БССР. Паколькі падручнік выдадзены выдавецтвам «Народная асвета» ў 1970 годзе, трэба лічыць, што гэта найнавейшае дасягненне педагогаў і методыкаў па гэтаму прадмету ў БССР.

Не маю адпаведных кваліфікацый, ані права рабіць рэцэнзію на гэты падручнік, аднак хочацца неяк шырэй паінфармаваць аб ім асабліва настаўнікаў.

Падручнік складзены Я. Грамыка і У. Журовічам, а яго матэрыял змешчаны на 141 старонцы кніжкі. Матэрыял раздзелены на два паўгоддзі, што настаўніку аблягчае планаванне працы.

У падручніку шмат беларускіх народных песень. Пасля кожнай песні яе тэарэтычная агаворка і шматлікія практыкаванні па нотах. Апрача таго, пасля кожнай метадычнай адзінкі аўтары паставілі пытанні і заданні, што прычыніцца да лепшага замацавання вучэбнага матэрыялу. Апрача беларускіх — выступаюць таксама рускія і нямецкія песні. Звязана гэта аднак перш за ўсё з музычным і ідэйным выхаваннем моладзі. Калі, напрыклад, гаворка пра марш, як музычны твор, дык аўтары даюць тут старую рэвалюцыйную песню «Смело, товарищи, в ногу!». Ёсць тут і песня «Сурок», да якой словы напісаў У. Гётэ, а музыку Л. Бетховен — слаўныя людзі нямецкага народа.

Вельмі цікава пабудаваны тэмы пад агульным загалоўкам «Слухайце музыку». У спамянутым падручніку знойдзеш шмат месца, прысвечанага аўтару «Табакеркі» В. Залатарову. З падананай інфармацыі аб кампазітару можна даведацца, што многа гадоў жыў і працаваў ён у Беларусі і што ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў музычнай адукацыі ў Беларусі. Ёсць тут гаворка і пра аўтара оперы «Марынка» Р. Пукста, напісанай на сюжэт паэмы беларускай паэтэсы Э. Агняцвет. Ёсць тут інфармацыі аб вялікіх сябрах дзяцей — рускіх кампазітарах П. Чайкоўскім і М. Рымскім-Корсакаве, аб любімым і знаёмым з сучасных песень Уладзіміру Алоўнікаве і іншых рускіх і савецкіх кампазітарах, з імем якіх дзеці часта сустракаюцца.

На мой погляд, падручнік можа быць абсалютна прыдатны для карыстання, прынамсі для настаўніка, калі не для ўсіх вучняў, ва ўмовах нашых школ, дзе навучаецца беларуская мова. Прыдатным можа быць гэты падручнік з таго боку, што публікуе шмат беларускіх (дзіцячых) народных песень і падае шматлікія інфармацыі аб беларускіх кампазітарах і іх творчасці, і з таго, што настаўнік адразу мае пададзеныя практыкаванні па нотах і па тэорыі, якія вельмі лёгка дапасаваць да нашай польскай праграмы па музычнаму выхаванню.

*А. Лабановіч*

*Пачатак на стар. 1*

# БЕЛАСТОЦКІ МІЛЬЯРДЭР

важнае месца. Амаль 8 тысяч нашых працаўнікоў працуе ў вясковых крамах і другіх пляцоўках ГС-аў. Значыць, знаходзяць яны працу ў малых мястэчках. Звыш 40 працэнтаў працуючых у нас — гэта жанчыны.

Ці зможаце ўявіць сабе суму 12 мільярдаў злотых? Так, цяжка звычайнаму чалавеку ўявіць сабе яе велічыню. А наш таварны абарот перавышае ў год гэтую суму. ВЗГС на працягу свaёй дзейнасці павялічыў сваю трывалую маёмасць да 1 мільярда 212 мільёнаў зл.

*НІВА: Віншуем тады, вы сталі мільярдэрам. Значыць, ваша гаспадарка настаўлена на высокую рэнтабельнасць.*

*СТАРШЫНЯ:* Рэнтабельнасць з'яўляецца асновай гандлёвай дзейнасці. У мінулым годзе планавалі мы, што даб'емся 130 мільёнаў злотых чыстага прыбытку, фактычна дабіліся 146 мільёнаў, на гэты год запланавалі мы ўжо 150 мільёнаў чыстага прыбытку. Датыхчасовая дзейнасць нашых пляцовак паказвае на тое, што і на гэты раз мы перавыканаем план.

*НІВА: Выбачайце, ВЗГС дзейнічае сярод сялян і для сялян, а крыніцай вашых, такіх высокіх, прыбыткаў з'яўляюцца сялянскія грашовыя запасы. Ці ВЗГС не з'яўляецца тады велізарнай помпай, якая высасвае грошы з сялянскіх кішэняў? Ці з грамадскага пункту гледжання такая дзейнасць знаходзіць сваё апраўданне?*

*СТАРШЫНЯ:* Я разумею вашы турботы за сялянскае дабро, аднак, выбачайце, вы не правы. Англічане кажуць: грошы родзяць грошы. І гэта праўда. Селянін, гандлюючы з намі, таксама павялічвае сваё багацце. Але асноўная справа, пра якую нельга забыцца, гэта тое, каму дастаюцца, у чые рукі трапляюць гэтыя нашыя высокія прыбыткі. Ва ўмовах капіталістычнага ладу прыбытак павялічыў бы банкавае конта нейкага бізнесмена. У нас з'яўляецца ён агульнай, грамадскай уласнасцю і канчаткова служыць паляпшэнню жыцця менавіта сялян.

*НІВА: Якім чынам?*

*СТАРШЫНЯ:* ВЗГС з'яўляецца поўнасцю эканамічна самастойным, незалежным прадпрыемствам. Каб мы не мелі высокага ўласнага прыбытку, не змаглі б нічога новага будаваць, не змаглі б прыстасоўваць арганізацыю працы да патрэб сучаснай тэхнікі. А так гадавыя нашы капіталаўкладанні (інвестыцыі) складаюць суму 160 мільёнаў зл. Параўнайце, калі ласка, гэты лік з лікам гадавога прыбытку. Бачыце, што грошай з гадавога прыбытку не хапае нам на новыя капіталаўкладанні. Гэты недахоп папаўняем банкавым крэдытам. А ўсё дзеля таго, каб болей спраўна, хутка і сумленна абслугоўваць селяніна, гэтага селяніна, за якога вы так заступаецеся.

*НІВА: На што тады выкарыстоўваеце гэтыя аж настолькі высокія сумы грошай?*

*СТАРШЫНЯ:* У апошнія гады мы сканцэнтравалі сваю ўвагу на пабудове баз сельскагаспадарчага таварнага абароту. Кожны з 80-ці ГС-аў атрымаў па-сучаснаму распланаваную, новую базу. Маем ужо звыш 100 складаў. Зараз прыступілі мы да механізацыі працы на скупачных пунктах. Усе склады, якія прымаюць звыш 400 тон збожжа, атрымаюць абсталяванне для аўтаматычнай яго разгрузкі. Селянін пад'едзе пад рампу, развяжа мяшок, высыпе збожжа і далей ужо яго нічога не абходзіць. Такое абсталяванне каштуе ад 250 да 300 тысяч злотых. Ужо ў гэтым годзе атрымае яе 56 складаў:

*НІВА: Якое значэнне ў вашай дзейнасці мае агульны з'езд прадстаўнікоў і дэлегатаў гмінных спулдзельняў?*

*СТАРШЫНЯ:* Як сама назва нашага прадпрыемства паказвае, з'яўляецца яно спулдзельчай установай. Маем 220 тысяч членаў. Агульны з'езд — гэта іх і наша самая вышэйшая ўлада. На агульных з'ездах дэлегатаў у ГС-ах, ПЗГ-ах і ВЗГ-ах члены кантралююць дзейнасць гэтых пляцовак і ўстанаўліваюць абавязваючыя напрамкі на будучыню.

*НІВА: Шчыра дзякуем і адначасова жадаем далейшых поспехаў у дзейнасці дзеля дабра сялян.*

Інтэрв'ю правёў ВІКТАР РУДЧЫК



З ЖЫЦЦЯ ЛІЦЭЯЎ. Дзяўчаты з беларускага ліцэя ў Бельску на спартыўных занятках, якія вядзе праф. Марыя Красоўская.

*Фота Цаф — Сянько*

*Пачатак на стар. 1*

# ЧЫМ ПАХНУЦЬ ЖАЛЕЗНЫЯ ЗВЯРЫ

травы насунуўся, як холадна адразу стала — не так, як у даледніковую пару...

Скажыце, а хіба не для сенсацыі ці паляўнічых небываліц вось такое газетнае паведамленне.

«БАРАЦЬБА З ЗУБРАМІ. У апошні час у агародах пушчанскіх вёсак пачалі лавіць незвычайных свавольнікаў, якія ўнадзіліся лазіць у цётчыны грады. Імі аказаліся зубры. Зубры цяпер ужо не ядуць жыта ці аўсу. Праўда, авёс яны часам яшчэ могуць і ўважыць — прыйдуць, пакачаюцца там (а што ж зробіш, калі заедзь надакучае!) — і пойдуць. Асабліва спадабаліся зубрам морква і буракі: ядуць яны іх і аблізваюцца. Ад памідораў і салаты толькі плююцца — не спадабаліся. Павырываюць іх, паклычаць, пакідаюць, ды потым, мусіць, і абураюцца: «Ну і дзівакі ж гэтыя людзі, няўжо ім такая дрэнь можа падабацца, што яны яе нават на сваіх градах разводзяць».

Людзі не спяць цэлымі начамі, пільнуюць свае грады. Калі прыходзяць «зладзеі», мужчыны паляць вогнішчы, бубняць у бляхі і засланкі, розныя тазы і місы, крычаць. Зубры не любяць чалавечага крыку, цярпець не могуць віслівага сабачага брэху і таму спакойна, паважна, як усё роўна яны і не красці збіраліся, паварочваюць назад і з пачуццём уласнай годнасці хаваюцца зноў у пушчы...»

Але гэта не прыдумка. У зуброў тут не страляюць. У пушчы наогул рэдка калі чуецца сёння стрэл. Бо асновай кожнага запаведніка павінна быць чалавечнасць.

Павінна быць... Але часцей за ўсё, як мы ведаем, таго што павінна быць, не бывае. Колькі стралялі ў зуброў у Белавежы! Мусіць, вельмі цяжка было царам і каралям, цешачыся сваёй неабмежаванай уладаю, стрымацца ад спакусы пастраляць ва ўпор у гэтых магутных лясных асілкаў, якіх паслужлівыя падхалімы прывязвалі як не за ногі і потым калаціліся ад нецярпення і страху, каб крый божа, не спазніцца і тарганулі за вяроўку адразу ж пасля стрэлу « нават калі ў яго і не пацэлілі, зубр абавязкова павінен упасці: перад царамі і каралямі ўсе становяцца на калені. Але часцей за ўсё цалялі — стралялі ж дужа зблізку, і не пацэліць у шырокі зубрыны лоб было проста немагчыма.

Восень, 27 верасня. 1752 год. Жоўтая Белавежа. Усе пушчанскія сарокі не паспяваюць расказваць пра лясныя вяселлі — тут самая пара ўтрапёнага кахання. І раптам сарокі папярхнуліся — зуброў і аленяў, напоўненых, як дынамітам, пачуццём і жаданнем, загоншчыкі чамусьці зганяюць у адно абгароджанае месца. Нічога не разумеюць і зубры. Цікава — што здарылася? Хіба, акрамя жадання кахаць, у гэтыя дні ў каго-небудзь ёсць яшчэ іншыя жаданні? Аказваецца, яго каралеўская вялікасць кароль Аўгуст III палюе. Разам са сваёю жонкаю — вялікай каралевай. Гэта ім пабудавалі ўмацаваную, узнятую на дубовых слупах альтанку, а зубрам нарыхтавалі загоны, па якіх падганялі пад самыя-самыя рулі. Каралева ў перапынках паміж чытаннем, нехаця адрываючыся ад нейкага сентыментальнага рамана і трымаючы беленькі пальчык на тым радку, да якога яна дачытала, амаль не гледзячы, не цэлячыся, націскала на спуск. І, заўважце, ніводнага разу яна не прамахнулася — зуброў было так многа, і яны былі так блізка... Бывала, што развіццё падзей у кнізе (ён ёй здрадзіў, здрадзіў бессардэчны) так захапляла каралеву, што яна забывалася пра паляванне. І тады падагнаны пад альтанку зубр зненавідна чакаў стрэлу, чакаў, калі яна дачытае да абзаца ці перагорне старонку. Яго вочы, тужлівыя і разумныя, былі зусім блізка. І яна, адарваўшыся ад кнігі, магла б убачыць, колькі нянавісці і спакойнай, нашай чалавечай годнасці было ў яго вачах. Але ёй не было калі (падумаеш, нейкія там зубрыныя вочы!) — трэба было хутчэй даведацца, як да здрады паставіцца гераіня рамана.

У той дзень яе вялікасць каралева забіла 20 зуброў і прачытала каля 50 старонак сентыментальнага рамана...

А вось ужо 1860 год. Таксама верасень. Палюе цар Аляксандр II. З усёй пушчы пад яго стрэлы было сагнана 117 зуброў, 100 зайцаў, 3 ласі, 23 дзікі, 36 коз, 14 ланяў, 17 ваўкоў, 15 ліс, 14 барсукоў. Усяго 339 галоў.

І зноў зубр — цар пушчы — мужна глядзеў у халаднаватыя пакуль што рулі царскіх стрэльбаў.

Кажуць, што зубр п'е толькі чыстую ваду — ніхто яго не прымусіць напіцца з балота. Ён лепей пойдзе далёка-далёка, туды, дзе шумяць чыстыя ліўні, — а зубры чуюць дождж за дзесяткі кіламетраў.

Кажуць, што самы моцны боль зубр цярпіць без адзінага гуку — моўчкі. Менавіта так, як і трэба цару пушчы. Таму браканьеры стралялі яго ахвотней — ён хоць не пішчыць так, як заяц, і не трывожыць нервовую сістэму.

Кажуць, што зубр пакідае тыя лясы, дзе яго перамагаюць ашуканствам. Ён прызнае толькі сумленныя паядынкі. І таму, каб яго перамагчы, сіла і адвага паляўнічага ці яго суперніка павінны быць большыя за ягоныя. Ці ў крайнім выпадку, хоць бы роўныя.

Але зубр, нягледзячы на здзек і ганьбаванне, не пакінуў сваю Беларусь, сваю Белавежу. Вучоныя нават рабілі вывады, што пушча захавалася толькі

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### МАРЫНАВАНЫЯ ГРЫБЫ

Хто ж не любіць паласавацца зімой марынаванымі грыбкамі? Якая ж гаспадыня не імкнецца прызапасіць іх як найбольш на зіму, асабліва, каб мець пад свята? Бо з грыбкамі ж кожная закуска пойдзе, як па масле, ужо не гаворачы пра халадзец ці варанае або смажанае парася. Добра ідуць марынаваныя грыбы і не толькі як закуска, але дасканала надаюцца ў якасці салата да розных мясных патраў на штодзень. Прыемна, калі зімой можна заглянуць у кладоўку, выбраць слоічак з прыгожымі грыбкамі і пасмакаваць іх.

Аднак ва ўсім гэтым крыецца адно «але». Марынаваныя грыбы трэба зрабіць так, каб былі смачныя. Бо ў іншым выпадку шкада працы. Здаецца, што не зусім уданым з'яўляецца якраз найбольш распаўсюджаны ў нас спосаб марынавання грыбоў, калі грыбы адварваюць, вымаюць з навару і заліваюць воцатам з прыправамі. Яны тады атрымліваюцца вострыя і не маюць, уласна кажучы, спецыфічнага грыбнога арамату.

Таму раім вам у гэтым годзе замарынаваць грыбы паводле нашага спосабу, а пахвал ад гасцей не абярэцеся.

Для марынавання зазвычай бярэм здаровыя, маладзенькія грыбкі, каб былі цвёрдыя і не разлазіліся, калі мы іх замарынуем. Зразумела, што найлепш марынаваць баравікі або падасінавікі, але марынуюць таксама лісічкі, рыжыкі, зялёнкі, апенькі, масляты і іншыя грыбы.

Грыбы чысцім, па меры магчымасці пакідаючы іх цэлымі (тады яны вельмі прыгожа выглядаюць на талерцы), мыем дакладна некалькі разоў у халоднай вадзе і выкладаем у каструлю. Вадой заліваем так, каб грыбы былі толькі пакрытыя — яны ж выпусцяць яшчэ свой сок. З разліку на 1 літр вады, дадаем 300 г. 10-працэнтнага воцату, 4 сталовыя лыжкі цукру, 2 сталовыя лыжкі солі, душысты і чорны перац (гарошак), лаўровы ліст (лісткоў 5—6), чайную лыжку кмену. Грыбы варым на малым агні мінут 30—40. Трэба сачыць, каб яны не прыгарэлі.

Гатовыя грыбы астуджваем. Кладзем разам з соусам у падрыхтаваныя слоікі-вэкі (ашпараныя кіпятком, выцертыя насуха і прагрэтыя над агнём). У каструлі наліваем халоднай вады, устаўляем у ваду закрытыя (гумка, крышка і пружынка) слоікі. (У кожную каструлю ставім па адным слоіку). Каструлі ставім на агонь. Вэкі павінны гатавацца ў вадзе, пакуль з іх не пачнуць выходзіць пузыркі. Тады вэкі адразу вымаем з вады і ставім на стале. Яны павінны стаяць спакойна, пакуль не астынуць і не закрыюцца.

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### ІНДЗЕЙЦЫ — ПЕРШАЎЗЫХОДЦЫ

Штурм вяршынь — цяжкая і небяспечная справа. Еўрапейцы, напрыклад, доўга не маглі пакарыць Манблан (4.810 м). На яго не такіх ужо крутых схілах знайшлі смерць дзесяткі смельчакоў, перш чым у 1787 годзе швейцарскі вучоны дэ Сасюр дасягнуў мэты. З таго часу альпіністы, усведамляючы сябе несумненнымі першапраходцамі, пабывалі на найвышэйшых піках усіх частак свету. Аднак у Андах фанабэрыстасць сучасных спартсменаў нядаўна моцна паменшылася.

Яшчэ на рубяжы гэтага стагоддзя з Паўднёвай Амерыкі прыйшлі паведамленні, што сярод Кардыльер выяўлены сляды знаходжання старажытных індзейцаў: каменныя хаціны, вязанкі дроў, грабніцы. Мала хто ўспрыняў усур'ёз гэты дзіўны факт. Але ў 1954 годзе паблізу верхняй кропкі піка Плома (5.430 м), размешчанага крыху на ўсход ад Сант-Яга, пад штучнай каменнай сценкай было раскапана багатае захараненне — мумія дваццацігадовага інкі і мноства залатых і сярэбраных статуэтак, амулетаў, бранзалетаў. Знаходка здзівіла ўсіх. Пачалі даследаваць іншыя вяршыні — і амаль на кожнай адкрылі доказы даўніх і частых наведванняў. Часам на шасцікіламетровай вышыні пракладваліся нават дзіўныя «дарогі», выкладзеныя велізарнымі плітамі.

Інкі не будавалі пірамід, яны карысталіся прыроднымі. На вяршыні гары праводзіліся рытуальныя забойствы, гарэлі кастры. Паднябессе ўсцілалася чалавечымі касцямі. Аргенцінская экспедыцыя на Дэль Тора (6.386 м) натрапіла на шкілет, што ўмёрз у лёд, акружаны абломкамі глыб. Пазванок быў перабіты, быццам ад удару ззаду. Скрозь пласт шчабёнкі праглядвалі абрыўкі тканіны. Альпіністы здагадаліся яшчэ глыбей разварушыць каменнае ложа і знайшлі муміфікаваны труп юнака. У замагільнае жыццё «спадарожніка» адправілі, шчодра забяспечыўшы рознымі каштоўнымі рэчамі.

Асаблівай папулярнасцю ў інкаў карыстаўся патухлы вулкан Лулайлака (6.723 м., на поўнач ад Чылі, раён пустыні Атакама). У 1952 годзе Біён Ганзалес і Хуан Харсейм, якія ўступілі на яго вяршыню, не паверылі сваім вачам — нехта выклаў там сценку метровай вышыні і да таго ж пакінуў скураную сумку. А ў 1961 годзе Маціас Рэбіч раскапаў непадалёк руіны вялікага пахавальнага памяшкання з трох пакояў і загоны для лам? Навошта ламы? Можа быць, на іх перавозілі скарбы. Самае крыўднае — задоўга да альпіністаў, але пасля інкаў, Лулайлака падвергся нашэсцю авантурыстаў. Гэтым усё роўна — дзеля золата, не задумваючыся, палезлі б і на Эверэст! Яны пакінулі на долю археолагаў самае нязначнае.

Цяпер вучоныя ўскладаюць надзеі на найвышэйшую гару заходняга паўшар'я — сямітысячнік Аканкагуа (у перакладзе з мовы інкаў — «Белы Вартавы»). Чаму яго так мнагазначна назвалі? Што ён ахоўвае — казну імперыі, што загінула, схаваную ад заваёўнікаў? Ці дабраліся і туды спустошальнікі магіл?

Раней меркавалі — забабонныя старажытныя баяліся горных духаў, і, наогул, не мелі схільнасці да вышынных узыходжанняў. Выходзіць, у абарыгенаў Паўднёваў Афрыкі адносіны са «светам горным» складваліся значна больш складана. Нейкая сіла гнала іх уверх па кручах і льдах.

*На здымку: фрагмент святой даліны інкаў — Урубамба.*



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### РАНЦЫ — СІГНАЛЫ



У ФРГ пачалі выпускаць школьныя заплечныя ранцы, афарбаваныя ў ярка аранжавы колер і са свецячыміся прыладамі.

### ХАДЗЯЧАЯ РАСЛІНА

Гутарка ідзе пра плюшч, цікавую паўднёвую расліну. Пасадзяць яго ля дома, дрэва, гары, ён і пачне ўзлазіць наверх пры дапамозе апораў — учэпістых карэньчыкаў, што растуць пад лісцем. Карэньчык павялічваецца, пакуль не пападзе ў шчыліну і не замацуецца ў ёй. Калі ж паверхня гладкая, ён прыклейваецца выдзеленай ліпкай вадкасцю.

Дасягнуўшы вяршыні, плюшч ужо не адрошчвае апораў — больш яны не патрэбны. У яго з'яўляюцца зеленавата-жоўтыя кветкі, якія даюць насенне. Расліна жыве каля пяцісот гадоў.

### КІТЫ Ў РЭКАХ

Самыя маленькія кіты — дэльфіны — часам заходзяць у рэкі. Ленінградцы бачылі, як яны гулялі ў Няве, з'яўляліся яны і ў Ладажскім возеры. У рэках Сібіры і Далёкага Усходу дэльфіны не такія ўжо рэдкія госці. У Пячоры іх выявілі за 900 кіламетраў ад мора, у Обі за тысячу пяцьсот кіламетраў.

Зрэдку ў рэкі заходзяць і вялікія кіты. Не так даўно ўверх па Енісею падняўся кіт, і, наткнуўшыся на вялікае затопленае дрэва, загінуў.

КРЫСЦІЯН БЕРНАДАК




Урывак з кнігі французскага медыка, які мы публікуем, расказвае аб злачынствах, якія не маюць сабе роўных у гісторыі крымінальнага свету, — аб дзеяннях фашысцкіх «урачоў - даследчыкаў», што ажыццяўляліся ў поўнай адпаведнасці з «нормамі» трэцяга рэйха.

Пасля няўдач, што напаткалі немцаў у «бітве за Англію», даследчая служба ваенна-паветраных сіл рэйха занялася праблемай выратавання на моры. У ходзе баёў англічане бязлітасна збівалі нямецкія самалёты, а ледзяная вада Ла-Манша «дабівала» асаў маршала Герынга, якія прыгалі з парашутам, больш эфектыўна, чым кулямётная чарга.

— Праблема пераахаладжэння мела для нас вялікае значэнне, — гаварыў у сваіх паказаннях на Нюрнбергскім працэсе генерал медыцынскай службы Хіпке. — Лётчыкі гінулі ў моры ад холаду, нягледзячы на цёплае адзенне: лётчыкі, якія былі вылаўлены яшчэ жывымі, усё роўна гінулі: ім не дапамагалі ні лякарствы, ні догляд.

У тыя дні ваенны ўрач капітан Рашэр займаўся «даследаваннямі» ў баракамеры Дахау. Цікавіўся ён і праблемай пераахаладжэння, аднак, перагружаны сваімі «вельмі важнымі сакрэтнымі работамі», не мог цалкам пераключыцца на яе. Але неўзабаве нейкі прафесар Вельтц апублікаваў артыкул, які прыцягнуў увагу навукова-даследчай службы ВПС і доктара Рашэра.

У час папярэдніх доследаў на марскіх свінках Вельтц і яго асістэнты выпадкова выявілі, што жывёліны, ахалоджаныя да крытычнай тэмпературы, на дзіва хутка ажывалі, варта было толькі пагрузіць іх у ваду, нагрэтую да сарака градусаў. Раней урачы апасаліся вынікаў так званага сіндрома перагрэву. Прафесар Вельтц і ўрачы ВПС, напэўна, не ведалі аб працах рускага вучонага Ляпяшынскага, які яшчэ ў XIX стагоддзі ратаваў замёрзлых людзей, пагружаючы іх у ванну з тэмпературай вады 40 градусаў па Цэльсію Вельтц толькі паўтарыў гэта адкрыццё.

Вельтца запрасілі ў Дахау... Ён пасяліўся ў велізарным свінарніку, размешчаным за дзесяць кіламетраў ад «пакоя катаванняў» Рашэра.

### ТЭМПЕРАТУРА ЦЕЛА — 30 ГРАДУСАЎ.

Галандзец Хендрык Бернард Кноль здрамаў на бальнічным ложку. Ён марудна выздараўліваў пасля запалення лёгкіх.

Уставай, падла! За мной, хутка!

Кнолю дастаўся ўдар палкай, пакуль ён нацягваў свае апоркі.

Перад лазарэтам стаяла зялёная машына.

— Будзем насіць лёд.

І Кноль, нічога не падазраючы, перанёс два дзесяткі брускоў лёду ў вялікую драўляную балею, якая стаяла пасярэдзіне пакоя са свежапафарбаванымі сценамі (эсэсавец, які суправаджаў Кноля, называў яго «авіяцыйнай залай).

Нізенькі столік, два пюпітры, бюро; уздоўж сцяны — доўгі стол з кранштэйнамі і лабараторным посудам, саламяны матрац, тры табурэткі, крэсла; па падлозе пракладзены электрычныя правады; пад столлю над балеяй — сталёвая бэлька.

«Басейн» даўжынёй у два метры і такой жа глыбіні ўзвышаўся над падлогай прыкладна на паўметра. У «басейне», як і ў «зале», былі размешчаны розныя вымяральныя прыборы...

...Ксяндзу Міхайлоўскаму, які глядзеў на брусок лёду, што плаваў на паверхні вады, Рашэр крыкнуў:

— Распранайся!

Міхайлоўскага выбраў для доследаў начальнік лагера Дахау.

— Да маёй спіны прымацавалі правады, — расказвае Міхайлоўскі, — затым прымусілі надзець форму лётчыка, лётны камбінезон і футравыя боты. На шыю надзелі аўтамабільную камеру, падключылі правады да прыбораў і кінулі ў ваду. Мне адразу ж стала вельмі холадна, і я пачаў дрыжэць усім целам. Я сказаў людзям, што сталі ля балеі, што не змагу доўга вытрымаць такі холад, але яны засмяяліся і адказалі, што гэта працягнецца нядоўга. Я стараўся не страціць прытомнасці прыблізна на працягу паўтары гадзіны. За гэты час тэмпература ў мяне пачала падаць, спачатку павольна, затым хутчэй (я чуў рэплікі ўрачоў): спачатку ў мяне было 36,6, затым тэмпература паступова панізілася да 33 і, нарэшце, да 30 градусаў. Я быў амаль у непрытомным стане. Кожныя 15 мінут у мяне бралі кроў з вуха. Мне працягнулі цыгарэту, але курыць мне зусім не хацелася. Усё ж санітар засунуў цыгарэту мне ў рот і загадаў, каб я зацягваўся. Я выкурыў яе напалову. Мне далі крыху спіртнога, затым шклянку падагрэтага рому. Ногі зусім здранцвелі, рукі таксама, дыханне стала перарывістым. Я адчуваў, што паміраю, і зноў папрасіў, каб мяне дасталі з вады.

Тады доктар даў мне некалькі кропель нейкай саладкаватай вадкасці. Я страціў прытомнасць.

Калі я апрытомнеў, быў ужо вечар. Я ляжаў на насілках, накрытых коўдрамі; зверху былі сінія лямпы. Я сказаў, што галодны. Лагерны ўрач загадаў, каб мне прынеслі есці.

Доўгі час я адчуваў сябе вельмі дрэнна: сэрца працавала з перабоямі, балела галава, частыя сутаргі зводзілі ногі.

# ТРЫБУНА чытачоў

### ВЕСТКІ З ГАЙНАЎКІ

Гарадская рада нарадовая ў Гайнаўцы, якую ўзначальвае Кастусь Ляшчынскі, прызначыла з фонду МРН паўмільёна злотых на асвятленне горада. Ртутныя лямпы ў бягучым яшчэ годзе атрымаюць вуліцы: Леніна, Вызвалення, Варынскага, Спартовая і Варшаўская.

*

На вуліцы 1-га Мая пабудавана сучасная, прыгожая пачатковая школа № 1. 15-га верасня адбылося яе ўрачыстае адкрыццё. Каштавала яна 8 мільёнаў зл. У школе навейшае абсталяванне. Урокі праводзяцца ў спецыяльных прадметных кабінетах, што аблягчае ўспрыманне ведаў вучнямі.

*

У Гайнаўцы знаходзіцца ў пуску (разруху) фабрыка мэблі, у якой будзе працаваць 650 чалавек, у тым ліку 40% жанчын.

Да нядаўна ў Гайнаўцы былі вялікія цяжкасці з працай для жанчын. Цяпер гэтая справа поўнасцю вырашана.

*

У жніўні ў Гайнаўцы на вуліцы Вызвалення аддадзена да агульнага карыстання новая паліклініка. Гэта ў значнай меры прычыніцца да больш спраўнага абслугоўвання хворых.

*

У Гайнаўцы зараз 4 прадшколлі, 2 з іх — гэта прадшколлі прадпрыемстваў і 2 МРН. Разам у прадшколлях 416 дзяцей. У жніўні быў аддадзены ў карыстанне новы жлобак (яслі) на 80 месц. Такім чынам, у Гайнаўцы ўжо не існуе праблема недахопу месцаў у прадшколлях і жлобках.

*

Нядаўна Гайнаўскі ПЗГС аддаў у эксплуатацыю вытворню газіраванай вады і мясны камбінат.

*

У Гайнаўцы існуюць тры грамадскія паяднаўчыя камісіі. Да найлепш працуючых залічаецца грамадская паяднаўчая камісія пры гарадской радзе нарадовай. Камісія памірыла многіх людзей, якія мелі судзіцца. (мх)

### ДВА РАЗЫ НЕ ПЛАЦЯЦЬ!

Жыхар вёскі Белкі Іван Андрэюк восенню мінулага года наняў трактар у сельгасгуртку ў Трасцянцы. За выкананую працу Іван Андрэюк заплаціў належную суму для скарбніка сельгасгуртка і атрымаў на гэта пакітаванне.

24-га чэрвеня 1970 года Іван Андрэюк атрымаў павестку з павятовага праўлення сельгасгурткоў у Гайнаўцы, каб зноў за гэтую самую работу заплаціць, ды да гэтага нарасло шмат працэнтаў за задоўжанасць.

Як бачым, не ў парадку тут скарбнік сельгасгуртка ў Трасцянцы. Ён свае памылкі сам павінен выпраўляць. А калі гэта не памылкі, калі гэта зроблена спецыяльна, дык такі чалавек не павінен працаваць скарбнікам сельгасгуртка.

*Ярош, Гайнаўскі павет*

Доследы прафесара Хольцлёнера і доктара Рашэра павінны былі закончыцца ў пачатку кастрычніка 1942 года. Восемдзесят зняволеных змянялі адзін аднаго ў балеі «авіяцыйнай залы»; відаць, усіх іх анестэзавалі, калі пакуты станавіліся невыноснымі, — «паддоследны матэрыял» трэба было захаваць да канца доследаў. З балеі іх выцягвалі жывымі. «Пятнаццаць або можа васемнаццаць памёрла ў момант, калі ўрачы спрабавалі іх адагрэць», — паказаў на працэсе ў Нюрнбергу Вальтэр Неф.

На падставе доследаў Хольцлёнер і Рашэр склалі даклад; яго «навуковая» частка аб'ёмам у пяцьдзесят старонак на машынцы належыць пяру Хольцлёнера...

### «МЕЧАНЫ ДОКТАР»

Гімлер і эксперыментальныя цэнтры СС вывучалі праблему: «Колькі часу можа чалавек жыць, ужываючы для піцця выключна марскую ваду?

У той час у Германіі было знойдзена два спосабы рабіць марскую ваду прыгоднай для піцця: метад Шафера, ваеннага ўрача-хіміка, і метад Беркі, вядомага ваеннага інжынера.

...Карл Халайнрайнер і Йозер Лаўбінгэр трапілі ў Бухенвальд. З таго часу, як ім сказалі: « Вы, цыганы, ніколькі не лепшыя за яўрэяў», — яны кожны дзень чакалі, што іх накіруюць у крэматорый. У тую раніцу гучнагаварыцель назваў іх прозвішчы і нумары ў доўгім спісе іншых цыганоў.

(Працяг будзе)

### ПАЖАРНЫЯ КАМАНДЫ

Грамадская рада нарадовая ў Рыбалах (Бельскі павет) штогод адпісвае са свайго фонду пэўныя сумы для членаў добраахвотных пажарных каманд. Гэта з'яўляецца свайго роду ўзнагародай за гадавую працу пажарнікаў. І так для добраахвотнай 17-асабовай пажарнай каманды ў Цялушках адпісана з грамадскага фонду 6.017 зл., для пажарнікаў у Войшках — 7.948 зл, для пажарнікаў у Рэпісках — 12.508 зл. і г.д. На ўсе 7 пажарных каманд адпісана 51703 зл.

У грамадзе Рыбалы ўсе пажарныя каманды маюць механічныя маторныя помпы з поўным абсталяваннем і належныя для яго памяшканні.

У апошні час у вёсках Войшкі і Рэпіскі грамадскім чынам пабудаваны супрацьпажарныя басейны.

У мінулым годзе наша ГРН выдаткавала 16.777 зл. на супрацьпажарныя патрэбы. У бягучым годзе да 1-га верасня выдала 17 тыс. зл.

*Віктар Тамашук*
*Рыбалы*

### ІЛЬЯ НАУМЧУК

У Грыневічах Вялікіх існаваў гурток ЗМВ. Але аб ім не чулася, не гаварылася ў павятовым праўленні ЗМВ у Бельску Падляшскім. А калі выбралі старшынёй гуртка Ілью Наумчука — гурток стаў праяўляць вялікую дзейнасць у сваім асяроддзі. У Грыневічах была такая вуліца, што ў непагадзь цяжка было прайсці праз вёску. Па ініцыятыве гуртка ЗМВ быў арганізаваны грамадскі чын пабудовы маставой. Грамадскай працы пры гэтым улажана больш як на 120 тыс. зл.

У вёсцы не было дзе сабрацца моладзі і не толькі моладзі. Па ініцыятыве Ільі Наумчука і яго арганізатарскай дзейнасці ў Грыневічах Вялікіх існуе ўжо клуб «Руху», у якім кожны вечар збіраецца шмат людзей.

Да нядаўна ў Грыневічах не было партыйнай арганізацыі. І яна ўтварылася. З членаў ЗМВ была ўтворана кандыдацкая група, якая ўжо надае кіраўнічы тон усёй вёсцы. (мх)

### ДОБРЫ ГАСПАДАР

Кастусь Харкевіч са Старога Ляўкова (Гайнаўскі павет) гаспадарыць на 10 гектарах зялёных угоддзяў. Гадуе ён два кані, па 3—5 кароў. У мінулым годзе закантрактаваў 5 га жыта, 1 га бульбы і 1 га сырадэлі. Пад збожжавыя культуры і пад бульбу высеяў ён больш 1200 кілаграмаў НПК у чыстым складзе.

*Ц. Я.*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 23 гады. Пад канец верасня мы збіраемся браць шлюб. І я, і мой будучы муж жывем на вёсцы і працуем на гаспадарцы. Я аднак, хоць і жыву цэлы час на вёсцы, заўсёды модна апраналася. Таму хачу таксама пашыць модную гарсонку на свой шлюб. Купіла ўжо прыгожы матэрыял блакітнага колеру і толькі засталося прыдумаць фасон і пашыць. З фасонам дык не буду мець клопату, але не ведаю, якую зрабіць даўжыню спадніцы ў гарсонцы. Дагэтуль насіла я «міні», хоць не маю прыгожых ног — трохі занадта тоўстыя, асабліва вышэй кален. Хацелася б пашыць мне даўжыню «мідзі» — г.зн. многа даўжэй за калена, але баюся, што будуць смяяцца, вядома, на вёсцы гэта новая мода яшчэ не прынялася. А вельмі ж мне хацелася б модна выглядаць. Парай, Сэрцайка, што выбраць.

*Зіна з Гайнаўшчыны*

*Зіна!* І ў горадзе гэта новая мода ўваходзіць з «апорай», носяць некаторыя маладыя адважнейшыя дзяўчаты, але не хочуць на гэта згадзіцца жанчыны вышэй трыццаткі. Ці пераможа «міні» ці «мідзі» пакажа наступаючы сезон. Аднак табе раіла б я пашыць спадніцу трошкі даўжэйшую за калена, дык і будзеш выглядаць модна, і смяяцца аднавяскоўцы не будуць, бо такая ж мода трошкі даўжэй за калена нядаўна толькі прамінула, ды і таўшчыня тваіх ног таксама будзе замаскавана. Так што і модна, і карысна.

*Усяго добрага на новай дарозе жыцця жадае*

*Сэрцайка*

### АДНАК ЗАГАСПАДАРЫЛІ...

Вёска Чэхі Забалотныя мела супольную пашу. Была яна амаль «дзікая», неўраджайная, і каровы галадалі на ёй. Аднак жыхары вёскі не хацелі і думаць аб тым, каб пашу загаспадарыць. Зрабілі гэта пад прэсіяй павятовага інспектара водных суполак у Бельску Падляшскім. Заарaлі 30 га пашы і засеялі травой. І цяпер ёсць дасканалая паша. А колькі з гэтым было шуму ў вёсцы. Ездзілі нават дэлегацыі да павятовых улад, каб не дапусціць да загаспадаравання вясковай супольнай пашы. (сс)

### ВЫБАРЫ СОЛТЫСАЎ

Солтыса выбіраюць на тры гады. На Бельшчыне ў многіх грамадах адбываюцца цяпер выбары солтысаў. У грамадзе Рыбалы ва ўсіх вёсках у верасні адбудуцца вясковыя сходы, на якіх жыхары вёсак выберуць солтысаў. У грамадзе Грыгароўцы выбары солтысаў пачаліся ў жніўні. У Пашкоўшчыне выбарчы сход адбыўся 9-га жніўня. Аднавяскоўцы ізноў выбралі солтысам Міхася Адынца, які ўжо два разы добра выконваў гэтую ганаровую функцыю. (хх)

### ДАЖЫНКІ Ў ШЫМКАХ

30 жніўня г.г. адбыліся дажынкі ў Шымках, Беластоцкага павета. Прымалі ў іх удзел першы сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. Аляксандр Камінскі, сакратар ПЗКР Пётр Санюковіч, прэзас ПЗГС Тадэуш Прушынскі, старшыня павятовага праўлення ЗМВ Станіслаў Сухадольскі, старшыні трох ГРН у Шымках, Юшкавым Грудзе і Ялоўцы, а таксама іншыя запрошаныя госці.

Дажыначную ўрачыстасць адкрыў сакратар ПЗКР Пётр Санюковіч. З дакладам выступіў І сакратар ПК ПАРП А. Камінскі. Затым найлепшым гаспадарам былі ўручаны дыпломы. Мясцовыя сяляне прыпаднеслі традыцыйны бохан хлеба.

У мастацкай частцы выступілі самадзейнікі з Пагажалак. У міжчасе адбываліся спартыўныя розыгрышы па валейболу, спаборніцтвы па стральбе і па матацыклавай яздзе, конкурс воркі, практыкаванні пажарных каманд і г.д. Вялікай папулярнасцю карысталіся сярод прысутных сельскагаспадарчая выстаўка і кніжная фантавая латарэя. Варта дадаць, што міхалоўскі ГС добра забяспечыў удзельнікаў дажынак напіткамі, лёдамі і багатым асартыментам спажывецкіх артыкулаў. Школьнікі маглі папоўніць свае вучнёўскія запасы патрэбнымі сшыткамі і іншымі школьнымі прыборамі.

У дажынках прыняло ўдзел каля 3-х тысяч людзей.

На заканчэнне адбылося народнае гулянне.

*Тэкст і фота Янка Цялушэцкі*



*Урачыстасць адкрывае сакратар ПЗКР Пётр Санюковіч.*



*На дажынках было каля 3-ох тысяч чалавек.*



*Многія прыехалі матацыкламі.*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**ДУБІНЫ**

„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Soyera" (rumuński), 26—27.

**НАРАЎКА**

„Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy 2 ojców" (jugosł.), 23—27.

**НАРВА**

„Grawitacja" (jugosł.), „Na szlaku wojennych przygód" (czeski), 23—27.

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" (włoski), 26—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Toast" (polski), „Przygoda z piosenką" (polski), 23—27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Bestia" (węgierski), 22—23. „Zdobywcy nieba" (radz.), 24—25. „Ostatni termin" (USA), 26—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Bicz Boży" (polski), 22—23. „Zbyszek" (polski), 24—25. „Sól ziemi czarnej" (polski), 26—27.

**ЯНАЎ**

„Most" (jugosł.), 23—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Śpiewa Ywes Kontand" (radz.), 22—23. „Grzech Azizy" (ZRA), 24—25. „Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), 26—27.

**МЕЛЬНІК**

„Chewsburska ballada" (radz.), 22—23. „Profesor zbrodni" (węgierski), 24—25. „Sól ziemi czarnej" (polski), 26—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Sąsiedzi" (polski), „Czarny wiatr" (meksykański), 23—27.

**НОВЫ ДВОР**

„Październik" (radz.), „Trzy godziny miłości" (jugosł.), 26—27.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5923 W—3

# • НА ПРЫЁМЕ •

## РАСКАЗ ВЯСКОВАГА ЛЕКАРА

Вясковы лекар не толькі і не столькі лечыць хворых, колькі займаецца іншымі справамі, якіх у яго вельмі многа. Ён заўсёды нешта дастае: запасныя часткі для старой бальнічнай машыны, цвікі, цэглу і цэмент, таму што ён усё жыццё нешта будуе. Або перабудоўвае, дабудоўвае, надбудоўвае. Стварае. Яму пры гэтым не хапае не толькі матэрыялаў, яму таксама не хапае інжынерабудаўнічых ведаў.

Але галоўнае, чым займаецца вясковы лекар, — ён піша. Я думаю, што не выяўлю прафесіянальнай тайны, калі скажу, што лекар наогул многа піша. Ніводзін графаман не справіцца па колькасці напісанага з лекарам, які запаўняе гісторыі хвароб, карты, талоны, формы і формачкі. Толькі зрэдку адрываецца ён на секунду, каб мяльком глянуць на хворага, і зноў піша. Ні мінуты без радка— такі дэвіз.

Падлічана, што нармальны вясковы лекар спісвае за год каля шасці з палавінай пудоў паперы, якую ён раней таксама павінен недзе дастаць. Такім чынам, лекар у вёсцы пісьменнікам становіцца амаль аўтаматычна, нават калі не хоча...

Вядома ж, лекар і лечыць. А як жа інакш? Пры гэтым ён сутыкаецца з рознымі людзьмі. Адны заняты не менш яго самога і не вельмі адцягваюць яго ад папераў. А іншыя надоўга выводзяць яго са стану раўнавагі. Вось як гэта прыкладна выглядае:

— Можна?
— Можна.
— Можна ўвайсці?
— Уваходзьце.
— Каму? Мне ўвайсці можна?
— Чарга ваша?
— Мая.
— Ну, дык уваходзьце.
— Хто? Я?
— Вы ж, вы...
— Не крычыце, я чую.
— Як ваша прозвішча, хворая?
— Прозвішча?
— Так...
— Чыё? Маё?
— Ваша!
— А-а-а... Вам як? Па-вясковаму ці па дакументах?
— Па дакументах!..
— Не крычыце, я чую. Вось бачыце, ужо і забыла, што хацела сказаць.
— Прозвішча.
— Ага... ага... Пішыце: Тарапатка Улита.
— Што баліць?
— У мяне?
— У вас, у вас!
— Што баліць?
— Ну, вядома.
— Усё.
— Рукі баляць?
— Баляць.
— А ногі?
— І ногі.
— У спіне коле?
— Ой, коле!
— Ну, раздзявайцеся, пагля-дзім.
— Раздзявацца?
— Так!
— Каму? Мне?
— Вам!
— А навошта? Мне лякарстваў не трэба. Мне даведку дайце.
— Якую вам яшчэ даведку?
— А такую, каб у маёй суседкі агарод адабралі, а мне перадалі. Я хворая, дык маю права.
— Якое права?
— Што? Ой, не крычыце на мяне, гавару вам, я чую. Лекар, даруй госпадзі, а такі нервовы.

*В. Каваль*



### ЧАМУ

У Вашынгтоне журналіст бярэ інтэрв'ю ў аднаго з самых старых жыхароў:

— Чаму вы прыпісваеце сваё даўгалецце?

— Я ніколі не жыў у Тэхасе.

### ЗНАХОДЛІВЫ ГРЫБНІК

— Паўлітэрку, бачу, у лес захапіў. Ці не дужа многа на аднаго?

— Ды не. Калі ўсю вып'ю, больш грыбоў назбіраю — дваццаць будуць..

### БУДУЧЫНЯ

Дваццаць першае стагоддзе.

На адной з цэнтральных гарадскіх вуліц, па якой безупынным патокам рухаюцца аўтамабілі, стаяць двое сумных пешаходаў.

— Як вам удалося перайсці на гэты бок? — пытае адзін.

— А я не пераходзіў, я тут нарадзіўся.

# НІЎКА



### ДЫРЭКТАР

Размова ў прыёмнай:

— Чаму ваш дырэктар так крычыць, што мы праз сценку чуем?

— Ён размаўляе з другім горадам.

— А чаму ён не можа пагаварыць з другім горадам па тэлефоне?

### У МАГАЗІНЕ

— Я хацеў бы купіць гадзіннік для нашай установы.

— Сцінны ці будзільнік?

### АПРАЎДАННЕ

З'явіліся пажарнікі тады,
Калі вуглы адны дымілі:
— Так... гэтай не было б бяды,
Каб нам перад пажарам
пазванілі.

*М. Кулінковіч*



*— З тых пор як мы ўключылі ў каманду гэтага лунаціка, нам не страшныя любыя вяршыні!*

### ПРЫЧЫНА

— Чаму Пятро ўчора так крычаў на сваю жонку?

— Яна не хацела сказаць, на што патраціла грошы.

— А чаму ж сёння ён крычыць у два разы гучней?

— Сёння яна яму сказала.

### СЯБРЫ

Сустрэліся два сябры.

— Ты не мог бы пазычыць мне сто злотых?

— На жаль, дружа, у мяне няма пры сабе грошай.

— А дома?

— Дзякую, усе здаровы!

### У ТВОРЦАЎ

Рэжысёр звяртаецца да кінасцэнарыста:

— Ну, цяпер вы паглыбілі свой сцэнарый?

— Так, я перанёс дзеі ў шахту!..

### СУСЕДЗІ

— Што вы, ужо вельмі позна, вашы суседзі будуць нездаволены, — адмаўляўся госць, калі гаспадыня папрасіла яго заспяваць.

— Суседзі! Так ім і трэба! У мінулым тыдні яны атруцілі нашага ката.

### НЯЛЁГКА

У цягніку размаўляюць два пасажыры:

— У мяне, ведаеце, шэсць дачок.

— Дык нялёгка накарміць шэсць ратоў.

— Не шэсць, дванаццаць.

— Чаму?

— Бо яны выйшлі замуж.

### ЧАМУ

— Не хачу ісці ў школу! — хныкае шасцігадовы Пятрук.

— Чаму?

— Таму, што мне скажуць: напішы «А».

— А чаму ж ты не хочаш напісаць «А»?

— Таму, што потым мне скажуць: напішы «Б».

### НАРАБІЎСЯ

Прачнуўся Грыша. Пацягнуўся смачна.

— Снілася мне, быццам я цэлу ноч на полі працаваў і вельмі ўтаміўся. Дай мне, Маня, паснедаць, ды і лягу адпачыць.

### ШТО

Англічанін нечакана вяртаецца з камандзіроўкі дамоў. Убачыўшы збянтэжаную жонку і мужчынскія туфлі, якія тырчэлі з-пад ложка, ён дастае брытву.

— Што ты будзеш рабіць? — пытае жонка.

— Калі ў гэтых туфлях нікога няма, дык буду галіцца!

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, калі вы выйдзеце на пенсію, не забудзьце сказаць свайму наступніку, што я ўсё яшчэ чакаю бакала піва!



*— Не адпірайся! Да цябе званіла жанчына.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе моладзі з Баброўкі змяшчаем песню:

## Z Cyganami w świat

**Słowa: Marek Głogowski**
**Muzyka: Maciej Kossowski**

Gdy wyruszam w świat,
wiosną pachnie wiatr,
ptaki krążą wokół gniazd,
gdy wyruszam w świat.

Czy to świt, czy zmierzch,
droga woła mnie.
Nie żałuje niebo gwiazd,
gdy wyruszam z Cyganami
w świat.

Nie wiem kiedy znów zobaczysz
mnie,
może kiedyś wrócę, może nie...
Kto cygańską duszę ma,
tego coś po świecie gna.
Kto cygańską duszę ma,
tak jak ja...
Kto cygańską duszę ma,
tego coś po świecie gna.

Gdy wyruszam w świat,
las otula mgła,
gubi rosę polny kwiat,
gdy wyruszam w świat.

Słońce w biały dzień
nie odnajdzie mnie,
wiatr zaciera każdy ślad,
gdy wyruszam z Cyganami
w świat.

Nie wiem kiedy znów zobaczysz
mnie,
może w innej już zakocham się?
Kto cygańskie serce ma,
tego coś po świecie gna.
Kto cygańskie serce ma,
tak jak ja...
Kto cygańskie serce ma,
tego coś po świecie gna,
tego coś po świecie gna.

### СУПРАЦОЎНІЦА

— Што за чалавек наша новая супрацоўніца?
— Не ведаю. Я не вельмі разбіраюся ў фарбах.

### У ТУРМЕ

У камеру ўваходзіць наглядчык і кажа:
— Да вас на сустрэчу прыйшла жонка.
— Дык судовы прыгавор гэтага не прадбачваў!

### НАВОШТА

— Ты ведаеш, Кавальская збіраецца мяняць кватэру.
— Навошта гэта ёй?
— Яна гаворыць, што не можа дзесяць год запар пляткаваць аб адных і тых жа суседзях.



*— Не так хутка, мама яшчэ не ўлезла...*



*Трубачыст.*




### ПРЫТУЛАК ДЛЯ ГАНГСТЭРАЎ

Чыкага. Вядомы гангстэрскі бос Лайнус Фермары вырашыў пабудаваць за свае сродкі прытулак для састарэлых гангстэраў, якія ўжо не патрапяць займацца сваёй прафесіяй. Першая яго спроба, аднак, не ўвянчалася поспехам: падрадчык уцёк з асігнаванымі Лайнусам Фермары грашыма. Фермары ўсё ж не адмовіўся ад свайго плана: ён лічыць, што ўрэшце знойдзе сумленнага гангстэра.

### КРАДЗЕЖ ТАТУАЖА

Дацкі майстар татуажа Оле Гансэн падаў у суд на лекара з Капенгагена, абвінаваціўшы яго ў крадзежы. Лекар зрабіў свайму кліенту татуаж, узор якога скапіраваў з рысунка Гансэна не звяртаючыся да яго з просьбай аб дазволе на перайманне.

### ТЫ САБАКА!

Выраз «Ты сабака» не з'яўляецца, на думку венскага суда, абразлівым. Суддзя напісаў у матывацыю прыгавору: «Калі кагосьці акрэсліваюць як сабаку, дык гэта зусім не значыць, што дадзеная асоба павінна абражацца. Не адзін чалавек мог бы быць задаволены, каб быў надзелены якасцямі гэтакай жывёліны».




*Скажы мне, якія ў мяне недахопы, і я скажу, якія ў цябе вартасці.*